

# НавіНЫ БНФ

нумар 2 (80) 12 сакавіка 2005 г.

## У нумары:





# СА СЬВЯТАМ 25 САКАВІКА!

/ глядзі стар. 6 /

## першая асоба



Партыя БНФ рыхтуецца да вялікай агульнанацыянальнай кампаніі вызначэньня адзінага дэмакратычнага кандыдата. Мы ня маем ніякіх ілюзыяў наконт г.зв. "выбараў" пры цяперашнім заканадаўстве, складзе камісіяў, паслухмянасьці кантрактнікаў – карацей, пры Лукашэнку. Нашая задача – завершыць будаўніцтва сьценабітнае канструкцыі, здольнае прабіць мур дыктатуры. Такая канструкцыя – аб'яднаныя дэмакратычныя сілы.

Агульны людзкі патэнцыял усіх партыяў, прафсаюзаў, грамадзкіх арганізацыяў, што выказалі гатоўнасьць удзельнічаць у супольным працэсе, – ад 25 да 30 тысячаў чалавек (з улікам прыхільнікаў, якія прыходзяць падчас важных кампаніяў). Гэта няшмат, але й нямала. Калі кожны з нас наведае хаця б дзесяць кватэраў, – гэта азначае, што мы даходзім практычна да ўсяго насельніцтва.

Таму дасягнуты ровень міжпартыйнае супрацы – як у Менску, так і ў рэгіёнах – павінен быць захаваны. Мы яшчэ сутыкнемся са спробамі разбурыць і Пяцёрку плюс, і шырэйшае паразуменьне дэмакратычных сілаў. Гэта будзе рабіць як Лукашэнкава ўлада, гэтак і Масква. Будуць выкарыстоўвацца амбіцыі асобных прэтэндэнтаў на "пасаду", а таксама плесьціся інтрыгі ўнутры дэмакратычных партыяў. Зьяўленьне А.Казуліна ў ролі прэтэндэнта, які ідзе г.зв. "трэцім шляхам", – толькі першы званок. Натуральна, ніякіх "трэціх шляхоў" у цяперашняй Беларусі няма, сытуацыя гранічна простая, чорна-белая, і кожны павінен вызначацца, па які ён бок. Гэтаксама намэнклятура ("вэртыкаль") ня будзе самастойнай рухальнай сілай зьменаў. Яна будзе вычэкваць да апошняга, і толькі пабачыўшы, што шалі вагаў схіляюцца ў іншы бок, імгненна перабяжыць да будучых пераможцаў зь ліку г.зв. "несыстэмных", то бок сапраўдных дэмакратычных сілаў.

Чарнегаўская нарада былых кандыдатаў у дэпутаты паказала, што пакуль ня ўсе прэтэндэнты ў сьпіс "на адзінага" ў роўнай ступені гатовыя падпісацца пад *Дэклярацыяй прынцыпаў, сумленнасьці й салідарнасьці*, забавязацца прызнаць вынікі працэдуры выйсьця на адзінага кандыдата, увайсьці ў адзіную каманду. З задавальненьнем адзначаю, што падтрыманы намі прэтэндэнт – Аляксандар Мілінкевіч – заявіў, што безумоўна такіх прынцыпаў будзе трымацца. Наш прэтэндэнт мае рэальныя шанцы перамагчы ў працэсе вызначэньня адзінага кандыдата. Ён мае шэраг плюсаў: яго падтрымліваюць няўрадавыя арганізацыі й добра ведае рэгіянальны актыў. Тым больш важна нам, Фронту, быць узорнымі выканаўцамі ўзгодненага парадку вылучэньня. А хто яго будзе парушаць на сваю прыватную карысьць, дзеля амбіцыяў, дзеля няслушна зразуметага "партыйнага інтарэсу" – той зашкодзіць агульнай справе, аддаліць перамогу, сапсуе сваю рэпутацыю.

Да вызначанай працэдуры можна мець нямала заўвагаў. Прыкладам, слаба прапісаны парадак правядзеньня рэгіянальных сходаў. Карты ў рукі мясцовым дэмакратычным кааліцыям: хай дамаўляюцца. Калі вылучэньне праз рэгіянальныя сходы адбываецца на працягу красавіка, пасьля гэтага павінна прайсьці агітацыйная кампанія ў рэгіёнах, дзеля якой у значнай ступені ўсё й задумвалася: ісьці да людзей! На яе трэба пара-тройка месяцаў. Таму пра каляндар і тэрміны завяршэньня кампаніі трэба дамаўляцца вельмі дакладна.

Слова **"Беларусь"** цяпер на вуснах дэмакратычнага сьвету. Пасьля ўкраінскага трыюмфу свабоды нават скептыкі не пярэчаць, што маем шанец і мы. Трэба яго скарыстаць – максымальна адказна.

**Вінцук Вячорка,**
старшыня Партыі БНФ

# Бліжэйшыя задачы



**Віктар ІВАШКЕВІЧ,**
намесьнік старшыні Партыі БНФ

Вось ужо 15 гадоў Народны Фронт нястомна прапагандуе гэтыя мэты – незалежную Беларусь; дэмакратычную рынкавую эканоміку; нацыянальна-культурнае адраджэньне; эканамічную, культурную й палітычную інтэграцыю Беларусі ў Эўропу, і паступова ўсё больш людзей успрымаюць іх як свае. Так, у 1988 г., пры стварэньні аргкамітэту БНФ, пад гэтымі мэтамі падпісалася прыкладна адна тысяча чалавек. У 1991 г. на рэфэрэндуме "За захаваньне СССР" "супраць", паводле прапановы БНФ, прагаласавала 15% (каля 800 тыс. чалавек). У 1994 г., на першых прэзыдэнцкіх выбарах, за З.Пазьняка і С.Шушкевіча прагаласавала 22% (блізу 1,3 млн чалавек) У 2001 г., на прэзыдэнцкіх выбарах, за адзінага кандыдата ад апазыцыі У.Ганчарыка (паводле сацыялягічных дасьледваньняў НІСЭПД) прагаласавала каля 35% (прыкладна 2 млн чалавек). У 2004 г., на парлямэнцкіх выбарах і рэфэрэндуме (паводле апытаньня перад выбарчымі ўчасткамі Gallup Institute Baltic Surveys) "супраць" Лукашэнкі прагаласавала каля 45% (амаль 2,7 млн. чалавек). Прыблізна столькі ж людзей галасавала за апазыцыйных кандыдатаў (ад 15% у вёсцы, да 65% у Менску).

Кожны раз БНФ імкнуўся стварыць кааліцыю, прыцягнуўшы пад свае ідэалягічныя (а не партыйныя) сьцягі як мага больш людзей. Так, на выбарах у Вярхоўны Савет БССР у 1990 г., толькі 6 фронтаўцаў сталі дэпутатамі, а 30 чалавек у фракцыю "Апазыцыя БНФ" увайшлі з дэпутатаў, што перамаглі на выбарах як незалежныя. Але менавіта яны склалі тую крытычную масу, якая па прапанове БНФ у 1991 г. абвясьціла незалежнасьць Беларусі, ліквідавала дыктатуру КПБ, зрабіла дзяржаўнымі беларускую мову, бел-чырвона-белы сьцяг і герб "Пагоня", прыняла шэраг рынкавых законаў. Калі партыі й асобныя людзі далучаюцца да кааліцыі з БНФ, яны мусяць успрымаць і франтаўскія ідэалы, якія аб'ектыўна робяцца агульнакааліцыйнымі.

Як толькі "демократы вообще" ідуць асобна ад БНФ, тут жа вылазіць інтэграцыя з Расеяй і адмова ад беларускае мовы. Таму першая задача Беларускага Народнага Фронту – **узмацненьне й умацаваньне агульнадэмакратычнай кааліцыі з удзелам БНФ**.

Для станоўчага успрыняцьця людзьмі дэмакратычнай кааліцыі неабходнае адзінства. Відавочнай дэманстрацыяй гэтага адзінства зьяўляецца наяўнасьць адзінага лідэра. Няхай гэты лідэр будзе толькі першы сярод роўных, але гэты першы павінен быць. Для БНФ галоўнае не "прапіярыць" уласны партыйны "брэнд", а дамагчыся перамогі нашых ідэяў у галовах большасьці беларускіх людзей і ў 2006 г. рэалізаваць гэтыя ідэі ў жыцьці. Таму мы ня вылучылі старшыню Народнага Фронту на адзінага кандыдата.

*/працяг на стар. 3 /*

Да 25 сакавіка прэтэндэнтам на ўдзел у працэдуры адбору адзінага кандыдыта ад апазыцыі на ўдзел у прэзыдэнцкіх выбарах трэба заявіць пра свае амбіцыі. Далей сьпіс будзе зацьвярджацца на рэгіянальных канфэрэнцыях дэмакратычнага актыву, дзе патэнцыйным кандыдатам на прэзыдэнта трэба будзе атрымаць падтрымку большасьці дэлегатаў канфэрэнцыі. Мяркуецца, што першыя рэгіянальныя канфэрэнцыі дэмакратычнага актыву пачнуцца напачатку красавіка, і завершацца 1 траўня. Канчатковае ж рашэньне па адзіным кандыдаце прыме Кангрэс дэмакратычных сілаў Беларусі. Да гэтага пляну прадстаўнікі дэмакратычнай апазыцыі ішлі паўтары гады. Які шлях быў пройдзены, і што будзе надалей, распавядае наш суразмоўца – галоўны паліттэхноляг кааліцыі "Пяцёрка плюс", распрацоўнік стратэгіі вылучэньня адзінага кандыдыта, кіраўнік плянава-аналітычнае групы сп. **Вацлаў АРЭШКА.**

# Тэхноляг



**– Калі і зь якой мэтай была створаная плянава-аналітычная група?**

– Група была арганізаваная па ініцыятыве лідэраў "пяцёркі" (якая тады яшчэ не называлася "пяцёркаю") у верасьні 2003 г. У яе ўвайшлі прадстаўнікі ад усіх партыяў "пяцёркі" і ад некаторых няўрадавых арганізацыяў, якія мелі досьвед у плянаваньні ды арганізацыі палітычных і грамадзянскіх кампаніяў. Перад групаю была пастаўленая задача – распрацаваць прынцыпы дзейнасьці кааліцыі, якая тады склалася, яе брэнд, плян кампаніі. Фактычна група стала мазгавым цэнтрам кааліцыі і, дарэчы, адзіным, апроч нарады лідараў, яе сталадзеючым органам.

**– Наколькі шырокае кола экспэртаў вы прыцягваеце да супрацоўніцтва?**

– У нашых партыях нямала людзей з досьведам і ведамі. Большасьць зь іх па тых ці іншых пытаньнях дапамагаюць групе. Увогуле, мы імкнемся да супрацы з усімі спэцыялістамі, якія могуць быць карыснымі. Адна з праблемаў у тым, што праца ў групе, як кажуць, "на грамадзкіх пачатках". Шмат каго гэта не зусім задавальняе.

**– Ці ёсьць, на вашую думку, у Беларусі сапраўды прафэсійныя паліттэхнолягі?**

– Цікавае пытаньне. Як я ўжо казаў, нашыя экспэрты маюць досыць высокі прафэсійны ўзровень. Але ж такой прафэсіі, як "паліттэхноляг", на маю думку, у Беларусі не існуе. Прафэсійная праца, гэта, выбачайце, праца за грошы і ва ўсім сьвеце не за малыя. Каб быў сапраўдны рынак палітычных тэхналёгіяў і спэцыялістаў, у гэтай галіне патрэбна нармальнае палітычнае жыцьцё, свабодная палітычная канкурэнцыя. Патрэбныя структуры й людзі, зацікаўленыя ўкладаць ў палітыку сродкі. Мы ўсе ведаем, што ў нас у Беларусі ёсьць толькі адзін "палітык". І на яго сапраўды працуюць тэхнолягі. Займаюцца яны прапагандай. Ёсьць яшчэ шэраг людзей, якія пазыцыянуюцца як "экспэрты", гатовыя за добры заробак намаляваць вам якую хочаш "стратэгію" ці "тактыку". Нямала такіх тусавалася ў свой час у штабе Ганчарыка. Вынікі вядомыя.

І ўвогуле само паняцьце "паліттэхналёгія" мне не падабаецца. Гэта расейскі тэрмін. У цывілізаваным сьвеце ёсьць палітычны піяр, палітычная рэклама, палітычныя кансультанты. Ніякімі адмысловымі "тэхналёгіямі" не зробіш з макакі лідэра нацыі, які павядзе за сабою народ да перамогі. Гэта абсалютна справядліва і для Беларусі. А добрыя спэцыялісты ёсьць. І я думаю, што калі зьменіцца сытуацыя, на беларускіх паліткансультантаў будзе вялікі попыт. Асабліва ў краінах з "экстрэмальнымі" ўмовамі.

**– Ці задавальняе вас якасць тых сацыялягічных дасьледваньняў, вынікамі якіх вы можаце карыстацца? Ці дастатковая гэтая інфармацыя, каб на яе падставе распрацоўваць пляны дзеяньняў?**

— Нашы сацыёлягі – тыя, якія працуюць з дэмакратычнымі сіламі, — выдатныя прафэсіяналы. Нам не хапае хіба колькасьці дасьледваньняў, магчымасьці замаўляць і апэратыўна атрымліваць тое, што патрэбна менавіта ў гэтую хвіліну. Добра было б, каб зьявіліся новыя незалежныя цэнтры дасьледваньняў. Але гэта няпроста ў беларускіх умовах.

**– Ці часта здараецца, што лідэры "пяцёркі" не прымаюць прапановы групы і адпраўляюць іх на дапрацоўку?**

– Лідэры давяраюць Групе і большасьць прапановаў прымаецца й выконваецца. Усе рашэньні у групе прымаюцца кансэнсусам і потым лідэры таксама разам прымаюць свае канчатковыя рашэньні. Але каб дамагчыся ўзгадненьня думкі па ўсіх пунктах прыходзіцца добра папрацаваць, часам і паспрачацца. У "пяцёрцы" і ў так званай "дзясятцы" розныя палітычныя суб'екты, розныя пазыцыі і падыходы. Нам патрэбна ўлічваць усё.

**– Якія найбольшыя пагрозы працэсу выбару адзінага кандыдата вы бачыце? Як можна іх пазьбегнуць?**

– На маю думку самыя вялікія небясьпекі выходзяць "знутры". Гэта ўсё, што парушае адзінства дэмакратычных сілаў. Спробы перахітрыць, "абгуляць" сваіх партнэраў, зрабіць штосьці за кошт іншых больш небяспечныя, чымсьці правакацыі рэжыму. Рэжым гэта добра разумее й спрабуе на гэтым гуляць. Таксама баюся я часам залішняга імпэту, "шапказакідальніцтва". Можна шмат на сябе ўзяць і вельмі мала зрабіць. І "падставіць" такім чынам усіх.

Я лічу, што зараз перад намі сапраўды ёсьць пэўныя сур'ёзныя пэрспэктывы. Яны заснаваныя найперш на нашым адзінстве. Адзінстве ўсіх дэмакратычных сілаў. Сёньня гэта найвялікшае дасягненьне беларускіх дэмакратаў. І будзе вельмі шкада змарнаваць шанец.

# Бліжэйшыя задачы

*/пачатак на стар. 2 /*

Таму мы падтрымалі беспартыйнага лідэра, які вызнае нашыя ідэалы. Таму нашая другая задача – дамагчыся, каб кааліцыя не пазьней сакавіка правяла абласныя сходы па вылучэньні кандыдатаў на агульнанацыянальнага лідэра, а **не пазьней чэрвеня правяла Кангрэс дэмакратычных сілаў, на якім абрала адзінага кандыдата ў прэзыдэнты ад дэмакратычнай кааліцыі.**

Яшчэ ў 1988 г. ствараючы БНФ, яго ініцыятары разумелі, што, абапіраючыся толькі на цалкам палітычна сьвядомых і беларускамоўных актывістаў, яны не дасягнуць ажыцьцяўленьня сваіх ідэяў. Таму падтрымка любых сацыяльных ініцыятываў з мэтай іх палітызацыі стала генэральнай лініяй БНФ.

Сёньня найбольш актыўнай сацыяльнай групай зьяўляюцца дробныя гандляры рынкаў. **Палітызацыя руху прадпрымальнікаў – нашая трэцяя бліжэйшая задача.** Сымбалічна, што пераломам ад спадзяваньняў на "добрага бацьку", да пераканаНьня ў неабходнасьці палітычных зьменаў павінен адбыцца 25 сакавіка – у Дзень Волі. У гэты дзень мы ўсе павінны прыйсьці на прадпрымальніцкія мітынгі, распаўсюджваць там нашую літаратуру, размаўляць зь імі й урэшце пераканаць падняць над сваімі галовамі бел-чырвона-белы сьцяг.

# Пад пагрозай сыходу ў падпольле



**Уладзімер ЛАБКОВІЧ,**

Старшыня Арганізацыйна-прававой камісіі Партыі БНФ

Палітычныя партыі ў Беларусі апынуліся ў дваістай сытуацыі. З аднаго боку закон рэглямэнтуе, што партыі ствараюцца з мэтай рэалізацыі грамадзянамі сваіх палітычных перакананьняў праз прыход прадстаўнікоў палітычных партыяў да ўлады. Але ж у нашай краіне гэтая норма зьяўляецца цалкам дэкляратыўнай. У той жа момант Беларусь ня мае праўрадавые партыі, якія існуюць у большасьці постсавецкіх краінаў з аўтарытарным кіраўніцтвам. Праўрадавыя партыі сёньня есьць у Расеі, Азербайджане, Кыргыстане... З большага – гэта ня ёсьць палітычная структуры, а, хутчэй, рознаўзроўневыя клюбы намэклятуры. І калі, прыкладам, праз мірныя рэвалюцыі ўлада ў краіне зьмяняецца, праўрадавыя партыі не сыходзяць у апазыцыю, а зьнікаюць. Так, пасьля рэвалюцыі ружаў у Грузіі адразу спыніла сваю дзейнасьць партыя "Саюз грамадзянаў", якая была ўтвораная для Шэварнадзэ. Зараз на Украіне амаль цалкам развалілася СДПУ(о) – партыя Медведчука, якая падтрымлівала Кучму, а падчас прэзідэнцкіх выбараў – Януковіча.

У Беларусі ж узаемаадносіны палітычных партыяў (квазіпартыі, якія быццам бы падтрымліваюць рэжым, ня ёсьць суб'ектамі палітычнага працэсу), і ўладаў заўсёды былі складанымі. Заканадаўчая база ня толькі не дазваляе разьвіваць партыйнае будаўніцтва, а, наадварот, скіраваная на зьнішчэньне палітычных партыяў. Прыгадайма, з 1999 г. не было зарэгістравана аніводнай палітычнай партыі. Сёньня ў Беларусі прасьцей зарэгістраваць камэрцыйную фірму, чымсьці палітычную партыю. Па колькасьці праверак, ціску, папераабароту, палітычныя партыі займаюць першае месца сярод юрыдычных асобаў усіх формаў уласнасьці і відаў дзейнасьці. Так, Партыя БНФ са студзеня 2004г. перажыла ўжо пяць вялікіх праверак Міністэрства юстыцыі.

Арганізацыйна-прававая камісія працуе ў рэжыме пастаянных адказаў на запыты Мінітэрства юстыцыі, якое зьўляецца не партнэрам для палітычных партыяў, а карным атрадам, які разам з судамі выконвае функцыі па зьнішчэньні палітычных партыяў.

2003г. прайшоў пад знакам зьнішчэньня грамадзкіх аб'яднаньняў – легальны статус згубілі асноўныя праваабарончыя арганізацыі, рэсурсовыя цэнтры й шэраг іншых грамадзкіх аб'яднаньняў. Бягучы год можа стаць годам юрыдычнага зьнішчэньня палітычных партыяў. І тут досьвед грамадзкіх аб'яднаньняў надзвычай важны й для палітычных партыяў.

Па-першае, варта адзначыць, што актыўнасьць зьліквідаваных грамадзкіх аб'яднаньняў пасьля юрыдычнай ліквідацыі наадварот узрасла. Атрымліваецца, што калі ў Беларусі ты хочаш займацца грамадзкай дзейнасьцю, лепш ня мець афіцыйнага статусу. Адсутнасьць рэгістрацыі "прадугледжвае" адсутнасьць стасункаў з Міністэрствам юстыцыі, што дазваляе ўвесь час займацца сваёй справай і не губляць яго на бясконцыя праверкі, адказы, вядзеньне справаводзтва. Што ж да мінусаў адсутнасьці юрыдычнай рэгістрацыі, дык асноўныя тры:

**Першая**. Адсутнасьць інфармацыі ў СМІ. Вядома, што палітычная партыя зьнікае не тады, калі яе ліквідоўваюць, а тады, калі пра яе перастаюць пісаць. У нашых умовах забарона на распаўсюд інфармацыі ад імя незарэгістраваных (зьліквідаваных) аб'яднаньняў і партыяў – гэта ёсьць праблемай. Але ж досьвед усё тых жа зьліквідаваных грамадзкіх арганізацыяў паказвае, што незалежныя СМІ, якія самі ў легальным стане, падобна, дажываюць апошнія месяцы, гатовыя пісаць — толькі б была інфармацыйная нагода. Таму пры наяўнасьці дзейнасьці будуць і публікацыі ў СМІ.

**Другая**. Вылучэньне назіральнікаў, кандыдатаў, адным словам, удзел у выбарах. Для аналізу гэтага мінусу трэба адказаць на пытаньне — навошта мы вылучаем кандыдатаў, сябраў камісіі й назіральнікаў. Вядома, што палітыка сёньняшніх уладаў скіраваная на тое, каб не дапускаць да фармаваньня камісіяў сябраў апазыцыйных партыяў. Але ж наяўнасьць прадстаўнікоў апазыцыі ў выбарчых камісіях зьўляецца асновай прызнаньня ці непрызнаньня адпаведнасьці выбараў міжнародным стандартам. Таму вылучэньне неабходна праводзіць і надалей. Выкарыстоўваючы іншыя механізмы, такія як вылучэньне шляхам збору подпісаў. Выказваньне ўладаў, што, маўляў, няма вылучэнцаў ад партыі, няма й праблемаў, тут ня дзейнічае, таму што экспэрты, якія ацэньваюць выбары, ўжо добра разьбіраюцца ў беларускай сытуацыі. Таму й не прызнаныя аніводныя выбары з 1996г.

**Трэцяя**, і самая істотная — праблема офісаў і камунікацыі. Гэта сапраўды ёсьць праблемай. Тым больш для такой вялікай і разгалінаванай партыі як Партыя БНФ. Таму неабходна ў самы бліжэйшы час пачаць падрыхтоўку партыі да дзейнасьці ва ўмовах адсутнасьці рэгістрацыі: распрацаваць мэханізм камунікацыяў, правядзеньня сходаў, стасункаў зь іншымі суб'ектамі. Гэта ёсьць тэмай асобнай публікацыі, якая будзе надрукаваная ў наступным нумары.

Трэба ўсьведамляць, што афіцыйны юрыдычны статус Партыі БНФ зьўляецца нашай бясспрэчнай каштоўнасьцю. І мы павінны прыкласьці ўсе намаганьні, каб цягам максымальна доўгага часу не губляць рэгістрацыі. Гэта патрабуе вялікай адказнасьці. У першую чаргу ад спэцыялізаванай Арганізацыйна-прававой камісіі Партыі БНФ, але таксама й ад рэгіянальных партыйных кіраўнікоў усіх узроўняў.



# Будучыня пачынаецца сёньня

**Аляксей ЯНУКЕВІЧ,**
намесьнік
старшыні Партыі БНФ

Вясна-2005 ёсьць надзвычай важнай. Гэта разумее дэмакратычная супольнасьць Беларусі, гэта вельмі добра разумее Лукашэнка. Палітычны цыкль наступных прэзыдэнцкіх выбараў пачынаецца цяпер. Тое палітычнае насеньне, што будзе пакладзенае ў глебу гэтай вясной, прынясе свае вынікі ўвосень 2006 году.

Так, усё яшчэ існуе верагоднасьць таго, што Лукашэнка пойдзе на выбары ў гэтым, 2005 годзе. Такія сцэнары не адрозьніваюцца арыгінальнасьцю: чарговы ўсебеларускі сход (напрыклад, у траўні) ад імя беларускага народу папросіць Лукашэнку правесьці выбары ў гэтым годзе. Натуральна, у такім выпадку мы павінны будзем дзейнічаць хутка й рашуча, паводле іншага сцэнару, ставячы перад сабой іншыя мэты. Але такі варыянт будзе азначаць, без перабольшваньняў, пачатак палітычнага фіналу Лукашэнкі. Уся ягоная палітычная моц будуецца на адным прынцыпе, і толькі пасьлядоўнасьць у ажыцьцяўленьні гэтага прынцыпу дазваляе Лукашэнку так доўга трымацца ва ўладзе. Гэты прынцып наступны: ніколі не саступай. Ні ў чым. Пакуль ты маеш сілы, ты мусіш кантраляваць усё. Ты ніколі не ўцякаеш, прымаеш кожны выклік і ўсімі наяўнымі сродкамі забясьпечваеш сабе перамогу. Менавіта таму сыстэма ўлады сёньня выглядае такой моцнай. Моц – гэта форма яе існаваньня. Слабасьць адмаўляецца ў прынцыпе. Таму любая праява слабасьці ёсьць сьведчаньнем канца, разбурэньня. Сыстэма татальнага кантролю ня можа рушыцца паступова або часткамі. Яна непахісна стаіць да апошняга, а пасьля разлятаецца на тысячы кавалкаў.

Выбары ў 2005 годзе – гэта ўцёкі. Гэта дэманстрацыя слабасьці й няўпэўненасьці ў сабе. Кожны, перадусім – унутры сыстэмы, разумее, што ёсьць толькі адна паважная прычына праводзіць выбары ў 2005 годзе: упэўненасьць у тым, што праз год ня хопіць сілаў перамагчы. Што гэтая ўлада трымаецца з апошніх сілаў. Лукашэнка павінны ўсьведамляць, што страта веры ў моц сыстэмы азначае рэальную страту самой моцы. Таму я перакананы, што Лукашэнка будзе імкнуцца правесьці выбары ў 2006 годзе, а ў гэтым годзе можа рашыцца на іх толькі ад безвыходнасьці.

Такім чынам, гэтая вясна будзе істотна ўплываць на вынікі выбараў менавіта 2006 году. Лукашэнка вельмі актыўна рыхтуецца да сьвяткаваньня 60-годдзя перамогі. Гэтае сьвяткаваньне мусіць задаць ідэалягічны й эмацыйны настрой усёй ягонай кампаніі аж да выбараў-2006. Відавочна, што такія станоўчыя словы, як перамога, вызваленьне, абаронца, мір, праца й г.д. будуць пакладзеныя ў аснову ягонага вобразу й, адпаведна, на апазыцыю й патэнцыйных апанэнтаў будуць наклейвацца ярлыкі, супрацьлеглыя па значэньню: параза, прыгнёт, агрэсар... Пытаньне эмацыйнага ўзмацненьня вобразу падаецца сёньня найбольш істотным для Лукашэнкі.

У сваю чаргу, для дэмакратычных сілаў задача нумар адзін – вызначэньне адзінага кандыдата. Безумоўна, другой задачай, ня менш істотнай за першую, ёсьць ідэалягічнае напаўненьне, зьмест кампаніі нашага кандыдата. Абсалютна недастаткова проста знайсьці добрую асобу, неабходна даць ёй выразны палітычны твар. Самыя па сабе правільныя й прыгожыя словы застануцца толькі словамі, калі за імі ня будзе стаяць адна, простая й зразумелая, але пры гэтым важная для людзей высокая ідэя. Альтэрнатыўная асоба й альтэрнатыўная ідэя ёсьць у роўнай ступені важнымі, кожная зь іх сама па сабе пазбаўленая шанцаў. І абедзьве – асоба й ідэя – мусяць быць знойдзеныя, вызначаныя як мага хутчэй.

Пра саму працэдуру вызначэньня адзінага кандыдата, асноўныя яе этапы "Навіны" падрабязна пісалі ў папярэднім нумары. Тут я хачу спыніцца на пытаньні, як пазьбегнуць небясьпекі паўтарэньня 2001 году, калі некалькі кандыдатаў у прэзыдэнты за 2 месяцы да выбараў вызначылі адзінага й пасьля ня здолелі загітаваць за яго нават значную частку партыйных і грамадзкіх актывістаў.

Перадусім, мы павінны жорстка трымацца таго прынцыпу, што быў закладзены з самага пачатку пры ўтварэньні "Пяцёркі плюс": вырашаць павінны партыі – палітычныя структуры – а не асобы. Мы мусім усьведамляць, што рана ці позна такое супрацьпастаўленьне абавязкова паўстане. Непазьбежна зьявяцца асобы, што будуць заяўляць пра свае прэзыдэнцкія амбіцыі да апошняга, пазьбягаючы пры гэтым любых схемаў рэальнага звужэньня кола кандыдатаў. Гэта цалкам зразумела: прасьцей і прыемней хадзіць на сустрэчы й прыёмы ў якасьці патэнцыйнага будучага прэзыдэнта, чым увайсьці ў каманду адзінага, узяўшы на сябе кавалак рэальнай працы. Таму, па-першае, патэнцыйныя кандыдаты мусяць быць дапушчаныя (і, нават, запрошаныя) да ўдзелу ў працэсе вызначэньня, але ні ў якім разе да ўплыву на гэты працэс, да прыняцця рашэньняў. Па-другое, пасьля вызначэньня адзінага для нас павінны існаваць толькі наш кандыдат і Лукашэнка. Калі толькі адзіны кандыдат сядае за стол зь іншымі прэтэндэнтамі й пачынае зь імі аб нечым дамаўляцца – гэта канец для ўсёй нашай схемы й канец для яго самога.

І апошняе. Натуральна, няпроста ўдзельнічаць у працэсе, які мы ня можам кантраляваць цалкам. Часам даводзіцца губляць час, у нечым саступаць. Але адзіны шлях узначаліць працэс – гэта пераўзыйсьці партнэраў актыўнасьцю, сваёй працай. Таму, па-ранейшаму, усё ў нашых з Вамі руках. Будучыня, у тым ліку выбараў-2006, залежыць ад нас. І гэтая будучыня пачынаецца сёньня.

Няволі – не!
Яна міне!
Міне сама?
Ды не!
Ня прыйдзе Волі час
Бяз нас,
Сьвятлом не паласьне!

Забудзьма страх!
Ніхто ня раб!
І – ў наступ ад параз
Дзень Волі у няволі каб
Сустрэць апошні раз!

*Сяржук Сокалаў-Воюш*
*9 сакавіка 2005 г.*



## Зварот да беларускага народу

**Дарагія Суродзічы,**

Ад імя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі вітаю Вас з нашым вялікім нацыянальным сьвятам – нашым Днём Волі – Днем 25 сакавіка.

З сумам канстатую, што афіцыйная Беларусь, у адрозьненьне ад усіх суседніх народаў былой расейскай імпэрыі, дасюль не адзначае абвяшчэньня, пасьля доўгай няволі, незалежнасьці сваей дзяржавы. Без абвешчаньня Радай БНР незалежнасьці ў 1918-м годзе сёньня ўжо беларускай дзяржаўнасьці, магчыма, і ня было б.

Дарагія суродзічы, шмат гаворыцца й пішацца апошнім часам у сьвеце пра будучыню Беларусі. Але толькі ад беларускага народу – ад нас саміх – будзе залежыць, ці Беларусь застанецца другой Кубай на парозе заможнай Эўропы, ці станецца паўнавартасным сябрам Эўрапейскай супольнасьці.

Цяпер, як ніколі, нам трэба паказаць сьвету, што мы – народ эўрапейскі, што мы паважаем адзін аднаго, што мы салідарныя ў змаганьні за нацыянальную годнасьць і лепшае жыцьцё.

Палітыкі, якія змагаюцца не за дабро Беларусі, а між сабой за ўладу, ня вартыя нашай увагі. Далучайцеся да радоў тых змагароў, якія ведаюць, што толькі зьяднанымі мы народзім вольную й дэмакратычную Беларусь, і што толькі тады наш народ зойме пачэснае месца між іншых народаў сьвету. І з свайго боку, Рада БНР будзе працягваць змаганьне пакуль не дасягнём гэтае мэты.

Дык памажы нам Божа!
Жыве Беларусь!

**Івонка Сурвіла,**
Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі

## Трэцяя Ўстаўная грамата Беларускае Народнае Рэспублікі

Год таму назад народы Беларусі разам з народамі Расеі ськінулі ярмо расейскага царызму, які найцяжэй прыцiснуў быў Беларусь; ня пытаючыся народу, ён кінуў наш край ў пажар вайны, якая чыста зруйнавала гарады і вёскі беларускія. Цяпер мы, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, ськідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасьці, якое гвалтам накінулі расейскія цары на наш вольны і незалежны край. Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнаю і вольнаю дзяржавай. Самі народы Беларусі ў асобе Ўстаноўчага Сойму пастановяць аб будучых дзяржаўных зьвязах Беларусі.

На моцы гэтага трацяць сілу ўсе старыя дзяржаўныя зьвязі, якія далі магчымасьць чужому ўраду падпісаць і за Беларусь трактат у Берасьці, што забівае на сьмерць беларускі народ, дзелячы зямлю яго на часткі. На моцы гэтага ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі мае ўвайсьці ў зносіны з зацікаўленымі старанамі, прапануючы ім перагледзець тую часьціну Берасьцейскага трактату, якая датычыць Беларусі, і падпісаць мірную ўмову з усімі ваяваўшымі дзяржавамі.

Беларуская Народная Рэспубліка павінна абняць усе землі, дзе жыве і мае лічбенную перавагу беларускі народ, а ласьне: Магілёўшчыну, беларускія часьці Меншчыны, Гродненшчыны (з Гродняй, Беластокам і інш.), Віленшчыны, Віцебшчыны, Смаленшчыны, Чарнігаўшчыны і сумежных часьцяў суседніх губэрняў, заселеных беларусамі.

Беларуская Народная Рэспубліка зацьвярджае ўсе тыя правы і вольнасьці грамадзян і народаў Беларусі, якія абвешчаныя Устаўной Граматай ад 9 сакавіка 1918 року.
Абвяшчаючы аб незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, Рада яе пакладае свае надзеі на тое, што ўсе любячыя волю народы дапамогуць беларускаму народу ў поўнай меры зьдзейсьніць яго палітычна-дзяржаўныя ідэалы.

**Рада Беларускае Народнае Рэспублікі,**
24 сакавіка 1918 року.

## Дарагія сябры, паплечнікі, суродзічы, усе грамадзяне Беларусі!

Ад імя Партыі БНФ шчыра віншую вас з Днём Незалежнасьці 25 Сакавіка.

Цяжка нават уявіць сабе, што магло б стацца зь Беларусьсю, каб не было Трэцяй Устаўной граматы Рады Беларускае Народнае Рэспублікі – Акту 25 Сакавіка 1918 году – і шматгадовага змаганьня некалькіх пакаленьняў беларусаў за ідэалы БНР: Свабоду, Незалежнасьць, Адраджэньне. Хутчэй за ўсё, наша краіна адміністрацыйна існавала б як некалькі пэрыфэрыйных абласьцей іншае дзяржавы.

Зьберагаць і мацаваць адноўленую ў 1991 годзе дзяржаўную незалежнасьць Беларусі цяпер мусім праз пераадоленьне антыбеларускае ўлады, аднаўленьне дэмакратыі ў нашай краіне, вяртаньне яе на эўрапейскі шлях. Насуперак уладнай палітыцы за апошнія 10 гадоў, насуперак нядобразычліўцам, абсалютная бальшыня нашых грамадзянаў сёньня не ўяўляе ўласнае пэрспэктывы безь незалежнасьці Беларусі.

Незалежнасьць – найвялікшы здабытак многіх і многіх пакаленьняў беларусаў. Зробленае ў 1918-м будзе даваць плён вечна. Ушануйма памяць змагароў-папярэднікаў у Дзень Незалежнасьці. Жыве Беларусь!

**Вінцук Вячорка**

# НОВЫ ТВАР

У суботу, 6 сакавіка на чарговай Менскай абласной справаздачна-выбарчай канфэрэнцыі Партыі БНФ і ГА БНФ "Адраджэньне" быў абраны новы старшыня абласной арганізацыі Партыі БНФ — Аляксей Казлоўскі.

Ён нарадзіўся 31 студзеня 1980 г. ў Вілейцы. Там жа скончыў сярэднюю школу № 4 (са срэбным мэдалём). У 2003 г. скончыў факультэт радыёфізікі ды электронікі БДУ. Працаваў у дзіцячым цэнтры "Надзея" у вёсцы Будзішчы Вілейскага раёну інжынэрам-праграмістам, потым – інжынэрам-праграмістам на аб'яднаньні "Слаўнафта". У катрычніку 2004 г. яму давялося звольніцца з-за ўдзелу ў якасьці кандыдата ў выбарах у Палату прадстаўнікоў на Маладэчанскай сельскай выбарчай акрузе № 86. У Партыі БНФ – з 2002 г. Сваімі галоўнымі задачамі на новай пасадзе сп. Казлоўскі лічыць прыцягненьне новых сяброў у партыю, а таксама – адбудову мясцовых арганізацыяў партыі ў гарадох вобласьці – Койданаве, Нясьвіжы, Стоўпцах, Мядзелы.

Намесьнікамі старшыні былі абраныя Юрась Зянковіч, Сяргей Салаш і Павал Батуеў. Адначасова С.Салаш быў рэкамэндаваны кіраўніцтву партыі ў якасьці кіраўніка абласнога выбарчага штабу.



Юры ГЕМБІЦКІ

# Нематэрыяльная агітацыя



20 сакавіка ў Горадні адбудуцца паўторныя выбары ў Палату прадстаўнікоў па Гарадзенскай Цэнтральнай выбарчай акрузе № 52. Нагадаем, гэтая акруга – адзіная, дзе ўладам не ўдалося правесьці свайго кандыдата ўвосень мінулага году. На сёньня кандыдатаў у дэпутаты засталося тры: сябра Партыі БНФ і старшыня незалежнага прафзьвязу ААТ "Горадня Азот" Сяргей Антусевіч, сябра БСДП (НГ), генэрал Валер Фралоў, а таксама рэктар Гарадзенскага дзяржаўнага ўнівэрсітэту Сяргей Маскевіч. На карысьць апошняга нядаўна зьняўся кандыдат-дублёр ад улады – дырэктар вытворча-тэхналягічнага каледжу бытавога абслугоўваньня Валер Міхно.

18 лютага, на наступны дзень пасьля апошняга дня рэгістрацыі кандыдатаў, распачаўся апошні этап перадвыбарчай кампаніі – агітацыя, які будзе доўжыцца да 18 сакавіка. Аднак жа каманда нашага кандыдата да серады бягучага тыдня вымушаная была весьці агітацыю без друкаваных інфармацыйных матэр'ялаў, якія павінныя былі быць атрымамі згодна зь дзеючым заканадаўствам яшчэ два тыдні таму.

Друкарня "Спектр-Р" згодна з дамовай надрукавала 2 200 каляровых улётак фармата А-4 з тварам кандыдыта ў дэпутаты ад Партыі БНФ Сяргея Антусевіча яшчэ ў суботу, 26 лютага Але забраць наклад ў той жа дзень было немагчыма з-за таго, што на таварна-транспартных накладных не было пячаткі фірмы. У панядзелак 28 лютага кіраўнік выбарчага штабу С.Антусевіча Вадзім Саранчукоў паехаў забіраць матэрыялы, але яму сказалі, што ў нядзелю ў друкарню прыяжджалі 4 чалавекі ў цывільным ды забралі ўвесь наклад. Упанядзелак жа зранку фірма раптоўна скасавала дамову ды анулявала накладныя, пералічыўшы грошы (700 тысячаў рублёў) на рахунак фінансавага аддзелу Гарадзенскага гарвыканкаму. С.Антусевіч напісаў дзьве заявы – у акруговую камісію ды Пракуратуру. З камісіі адказу няма дагэтуль, ды й нават невядома, ці была яна прынятая да разгляду. У Пракуратуры ж заяву прынялі. Але ж адказу адтуль таксама няма. Невядома й тое, ці былі надрукаваныя гэтыя ўлёткі ўвогуле, бо іх так ніхто й ня ўбачыў.

– Улады папросту спалохаліся. Па-першае, мы плянавалі раздачу ўлётак на акцыях пратэсту прадпрымальнікаў. А па-другое, бюро сацыялагічных дасьледаваньняў аблвыканкама праводзіла апытаньне перад выбарамі, згодна з вынікамі якога адсотак тых, хто гатовы падтрымаць мяне на выбарах апынуўся нашмат больш высокі, чымсьці прагназавалі ўлады. Вось яны й нэрвуюцца, – гаворыць кандыдат ў дэпутаты. – Мы замовілі іншую ўлётку, чорна-белую, накладам 5 тысячаў асобнікаў. А каляровую, накладам ў 3 тысячы асобнікаў, зробяць у іншай фірме. Вельмі дрэнна тое, што час бяжыць, а фактычна агітацыя ідзе без матэрыялаў.

У той жа час Сяргей Маскевіч атрымаў друкаваныя матэрыялы праз дзьве гадзіны пасьля ўласнай рэгістрацыі, што немагчыма зрабіць, калі не пачынаць гэты працэс загадзя, што, у сваю чаргу, ёсьць парушэньнем заканадаўства. Варта дадаць, што гэтымі днямі ў Горадні ідуць мерапрыемствы, зьвязаныя са сьвяткаваньнем 65-годзьдзя ўтварэньня Гарадзенскага дзяржаўнага ўнівэрсітэту, якія фактычна зьяўляюцца агітацыяй за С.Маскевіча.

За апошні тыдзень перадвыбарчай кампаніі можа шмат чаго здарыцца. Цалкам магчымае нават зьняцьцё Сяржука Антусевіча зь якой-кольвек фармальнай прычыны. Бо ўлады відавочна баяцца нашага кандыдата.

P.S. Днямі асуджаны адпаведна на 10 і 15 сутак кіраўнікі выбарчай кампаніі С. Антусевіча Вадзім Саранчукоў і Мікола Лемяноўскі. Трымайцеся, хлопцы, мы з вамі!



*(на фотаздымку – бел-чырвона-белы сьцяг у руках Сержука Салаша побач з прэзыдэнтам ЗША Джорджам Бушам)*

# Убачыць Буша

**Сяржук САЛАШ,**
**Брацiслава-Менск**

Мы, невялікая група беларусаў, якая знаходзілася ў Славаччыне прыканцы лютага па адной з адукацыйных праграмаў, яшчэ да ад'езду ў Братыславу ведалі, што 23 лютага ў гэтую краіну зь візытам прыедзе прэзыдэнт ЗША Джордж Буш. У глыбіні душы многія з нас спадзяваліся на тое, што нам пашчасьціць і мы зможам убачыць прэзыдэнта той краіны, зь якой так многа людзей у розных кутках сьвету зьвязвае ўсталяваньне ідэалаў свабоды й дэмакратыі; таго прэзыдэнта, палітыка якога прыводзіць у жывёльны страх самых закарэлых дыктатараў.

Атрымаўшы запрашальнік, які даваў магчымасьць папрысутнічаць на сьпічы амэрыканскага прэзыдэнта, што меўся адбыцца раніцай 24 лютага на пляцы Гвездаслава перад будынкам Братыслаўскай філармоніі, многія з нас адразу вызначыліся, што гэта будзе ня проста слуханьне, а самае актыўнае слуханьне. Гэта значыць, што мы мусілі зрабіць усё магчымае, каб нас, купку беларусаў, заўважылі. Заўважылі палітыкі, звычайныя славакі, журналісты, а гэта значыць заўважыў увесь сьвет. А калі ўвесь сьвет – значыць і Беларусь!

На запрашальніку дакладна вызначаўся сьпіс рэчаў, якія на пляц праносіць катэгарычна забаранялася: "Please do not bring umbrellas, signs, lighters, pocket knives, or flags". Вось гэтае "or flags" нас напачатку больш за ўсё і засмуціла. Як безь сьцягоў можна было засьведчыць, што мы – беларусы – тут таксама прысутнічаем і падтрымліваем палітыку ЗША? Але было цьвёрда вырашана зрабіць тую справу, якая неабходна Беларусі і прайсьці праз усе магчымыя кардоны са сваімі нацыянальнымі сымбалямі.

Калі высьветлілася, што на ўсю групу мы маем ўсяго толькі адзін вялікі бел-чырвона-бела сьцяг, нам давялося позна ўначы са спадручных матар'ялаў – белых аркушоў паперы А4 і чырвоных маркераў – намаляваць яшчэ зь дзясятак невялічкіх сьцяжкоў. Менавіта зараз варта падкрэсьліць наступнае. Кожны беларус за мяжой сваёй краіны проста абавязаны мець з сабой нацыянальны бел-чырвона-белы сьцяг, каб у выпадку чаго не апынуцца як мы ў такой непрыемнай сытуацыі – рук многа, а сьцяг АДЗІН!

Тым вогкім ранкам 24 лютага вуліцы старога горада Братылавы нагадвалі менскія вуліцы напярэдадні апазыцыйных масавых акцыяў – вялікая колькасьць паліцэйскіх і спэцслужбоўцаў у завулках, бронетэхніка, вышкаленыя аўчаркі... Над дахамі час ад часу пралятаі гэлікоптэры. А народ цікаўна на ўсё ўзіраўся і рабіў рэдкія фотаздымкі.

Кардоны й мэталадэтэктары мы прайшлі лёгка, нягледзячы на тое, што нашыя рэчы былі уважліва перапраўераныя. Са змантаванай сцэны гучала жывая энэргічная музыка. На тварах тысячаў людзей, сярод якіх сустракаліся людзі рознага веку, хаця пераважна маладыя, адчувалася напружанае чаканьне ўрачыстага моманту. І калі ён наступіў – калі Джордж Буш разам з прэм'ерам Славаччыны Мікулашам Дзурындам – выйшлі на людзі – народ як адзін узьняўся на дыбачкі і прывітальна замахаў, раздадзенымі за колькі хвілінаў да гэтага, маленечкімі славацкімі й амэрыканскімі сьцяжкамі. Угору ўзьняліся й нашыя сьцягі. Калі сказаць, што мы сябе паводзілі вельмі актыўна, значыць не сказаць нічога.

Мы трымалі нашыя сьцягі ўвесь час над галовамі. У нас пазацякалі рукі. Мы, напэўна, перашкаджалі сачыць за выступам, тым хто быў за нашымі сьпінамі. Але што нам было з таго? Мы з трымценьнем чакалі на той момант, калі Буш узгадае і пра сытуацыю ў нашай краіне. І ён узгадаў. Ён сказаў, што верыць у тое, што ідэалы дэмакратыі калі-небудзь дойдуць да сэрцаў кожнага жыхара Беларусі. Нашыя ўсхваляваныя, шчасьлівыя галасы ўзарвалі паветра над Гвездаслававым пляцам так нечакана гучна для прысутных, што незаўважыць нас было проста немагчыма. Джордж Буш на колькі сэкундаў прыпыніўся і, абаяльна ўсьміхнуўшыся, паглядзеў у наш бок. Справа была зробленая!

Затым да нас падыходзілі дзясяткі людзей, журналісты. Нас пазнавалі, бралі інтэрвію, здымаліся з намі, ціснулі нам рукі, горача выказвалі словы падтрымкі. І менавіта тады мне чамусьці падумалася, што героем дня ў Братыславе 24 лютага быў не амэрыканскі прэзыдэнт Джордж Буш, героямі дня былі мы – беларусы!

# Бескарысныя СЭЗы

Юры Гембіцкі

Беларускія свабодныя эканамічныя зоны ня спраўдзілі надзеяў на прыцягненьне замежных інвэстыцыяў ды развіцьцю экспарту, а па ўзроўню рэнтабельнасьці рэзыдэнты СЭЗ амаль не пераўзышлі прадпрыемствы, якія знаходзяцца ў звычайных умовах. Гэтыя рэгіянальныя эканамічныя ўтварэньні так і ня сталі папулярнымі ў патэнцыйных замежных і нацынальных інвэстараў, што зьвязана з аднаго боку зь нявызначанасьцю прававога рэжыму іх існаваньня, а з другога – з агульнай сытуацыяй ў эканоміцы краіны.

Унёсак беларускіх СЭЗ у разьвіцьцё эканомікі краіны застаецца нязначным, нягледзячы на рэпрэзэнтаваныя рэзыдэнтам зонаў падатковыя ды мытныя ільготы.

Аб'ём выручкі рэзыдэнтаў СЭЗ ад рэалізацыі прадукцыі й паслугаў склаў за мінулы год толькі 1,5 трыльёнаў рублёў ці 1,6% ад агульнага аб'ёму выручкі па ўсёй эканоміцы. Прыбытак рэзыдэнтаў СЭЗ ад рэалізацыі тавараў і паслугаў склаў 186 мільярдаў рублёў ці толькі 2,4 % ад агульнага прыбытку па эканоміцы, а тэмп яго росту й увогуле быў значна ніжэйшы, чымсьці ў цэлым па эканоміцы (+ 41,3 % супроць + 90 %).

Рэнтабэльнасьць дзейнасьці СЭЗ (17,3 %) толькі на 2,9 % перавышала агульную рэнтабельнасьць па эканоміцы, што з улікам мытных і падатковых ільготаў, якія прадастаўляліся рэзыдэнтам СЭЗ, нельга лічыць добрым паказьнікам. А па ўдзельнай вазе стратных прадпрыемстваў (31 %) СЭЗ аж на 10% апярэдзілі эканоміку наагул.



Да таго ж у мінулым годзе рэзыдэнты СЭЗ экспартавалі прадукцыі больш, чым імпартавалі (на на 8 мільёнаў даляраў), і, натуральна, не забясьпечылі станоўчага зьнешнегандлёвага балянсу, хоць, ту адрозьненьне ад эканомікі краіны, яны ня аплочвалі дарагі імпарт энэрганосьбітаў.

І апошняе. Інвэстыцыі рэзыдэнтаў СЭЗ склалі за 2004 год 128 млн даляраў, зь якіх толькі 58 млн – прыцягнутыя сродкі. А з гэтых толькі 31 млн – замежныя інвэстыцыі.

То бок у цэлым на долю СЭЗ ў 2004 годзе прыйшлося менш за 2 % ад усіх прыцягнутых інвэстыцыяў.

З усяго гэтага вынікае пытаньне: навошта гэтыя СЭЗы патрэбныя? Улады задалі самі сабе менавіта такое пытаньне ды вырашылі ўніфікаваць умовы рэальзацыі тавараў рэзыдэнтаў СЭЗ ды рэзыдэнтаў Беларусі. А праблема палягае ня столькі ў СЭЗах, колькі як раз ў агульнай эканамічнай мадэлі, у якой працаваць па рынкавых мадэлях аказваецца немагчыма нават пры наяўнасьці сур'езных падатковых ды мытных ільготаў. Усё ідзе да таго, што СЭЗы папросту вымруць, ці ўпадуць ў летаргічны сон. Да скону эканамічных мадэляў рынкавага сацыялізму.

**Даведка.** Колькасьць рэзыдэнтаў СЭЗ на 1 студзеня 2005 склала 275 (ці 2,5 % ад колькасьці ўсіх прадпрыемстваў краіны). У СЭЗ «Берасьце» – 93 рэзыдэнты, у СЭЗ «Менск» – 83, у СЭЗ «Гомель-Ратон» – 38 , у СЭЗ «Віцебск» – 25, у СЭЗ «Горадня-Інвэст» – 23 і ў СЭЗ «Магілеў» – 13 рэзыдэнтаў.

На прадпрыемствах СЭЗ у 2004 г працавалі 22,5 чалавек, ці 0,5 % ад агульнай колькасьці занятых у эканоміцы.

## адным абзацам

Дэфіцыт сродкаў на пасяўную кампанію складае зараз каля 100 мільярдаў рублёў. Гэта не дазваляе гаспадаркам набыць паліва, мінэральныя ўгнаеньні, а таксама своечасова адрамантаваць тэхніку. На сёньня пасяўная прафінансаваная толькі на чвэрць ад патрэбы. На правядзеньне пасяўной неабходна выдаткаваць агулам 2 з паловай мільярды рублёў, якіх пакуль няма. 100 мільярдаў павінны скласьці сродкі бюджэту, яшчэ 86 млрд – сродкі мясцовых бюджэтаў, 186 млрд пойдуць з фонду падтрымкі вытворцаў сельгаспрадукцыі, 173 млрд – крэдыты банкаў. Больш за паўтара трыльёны – уласныя сродкі сельгаспрадпрыемстваў, і авансы нарыхтоўчых і перапрацоўчых прадпрыемстваў павінныя скласьці 155 млрд рублёў. Гэнкім парадкам, вядома, адкуль ўсе гэтыя грошы возьмуцца, але невядома, якім чынам.

Калі ў 2005 годзе закупкавы кошт на піваварны ячмень будзе не ніжэйшы за леташні, то ў вытворцы соладу ААТ "Белсолад" не застанецца шанцаў на выжываньне.Неабгрунтавана высокія кошты на ячмень ураджаю 2004 году зрынулі ў фінансавую яму прадпрыемства, фінансавы стан якога да 2004 году быў устойлівым. У 2004 годзе Мінсельгасхарч усталяваў кошты на броварны ячмень у памеры 280 тыс. бел руб (1 даляр – 2159 бел руб.) за тону ячменю 2-клясы, 310 тыс бел руб – за тону 1-ай клясы. Пры такім узроўні коштаў "Белсолад" страчваў прыкладна 30 даляраў на тоне пры экспарце прадукцыі у Расею (асноўны рынак збыту). Чысты прыбытак прадпрыемства у 2004 годзе упаў у 4,6 разоў да 499 млн бел руб. У выніку акцыянэры ААТ згадзіліся з прапановаю "Бел дзяржхарчпраму" пра перадачу акцыяў працоўнага калектыву дзяржаве (цяпер доля дзяржавы – 50,4 прац.) у абмен на дзяржпадтрымку у выглядзе ільгот на зваротныя падаткі і зьніжэньне платы за выкарыстаньне крэдыту.



Пры гэтым Мінсельгасхарч Беларусі прапануе у 2005 годзе яшчэ больш падвысіць закупкавыя кошты на броварны ячмень у сярэднім на 10 прац. Гэты захад прапанаваны Мінсельгасхарчам.

# Камуніст рушыць у Эўразьвяз

Юры Гембіцкі



**6 сакавіка ў Малдове прайшлі парлямэнцкія выбары. Паводле зьвестак ЦВК краіны, зноў, як і на мінулых выбарах, перамагла Кампартыя Малдовы на чале з прэзыдэнтам Уладзімерам Вароніным. Камуністы атрымалі 46,1% галасоў выбарнікаў, апазыцыйны прарасейскі блёк "Дэмакратычная Малдова" на чале з мэрам Кішынёву Сэрафімам Урэкяну – 29,41%, Хрысьціянска-дэмакратычная народная партыя Юрые Рошкі – 9,7%. Такім чынам, камуністы будуць мець большасьць у парлямэнце Малдовы і змогуць сфармаваць урад, але ім патрэбна будзе прынамсі 6 галасоў ад апазыцыі для абраньня прэзыдэнта краіны дзьвюма трацінамі складу парлямэнту.**

Выбары былі спалучаныя зь безьліччу скандалаў, зьвязаных з нявыдачай акрэдытацыяў ды й нават масавай дэпартацыяй міжнародных назіральнікаў. Прычым менавіта тых, якія прадстаўлялі постсавецкія краіны, што не ўваходзяць у Эўразьвяз. У прыватнасьці, былі дэпартаваныя 46 назіральнікаў зь Беларусі, якія рэпрэзэнтавалі апазыцыйныя партыі й няўрадавыя арганізацыі. Яшчэ 54 чалавекі здолелі патрапіць на малдоўскую зямлю, але да працы на выбарчых участках прыступіць ня здолелі. ЦВК Малдовы іх не акрэдытаваў. Іх, а таксама 40 украінцаў разьмясьцілі ў доме адпачынку "Адысэй" пад Кішынёвам – пад пільным вокам малдоўскіх спэцслужбаў і паліцыі.

Прэзыдэнт гэтай краіны Ўладзімер Воронін заявіў, што міжнародныя арганізацыі прывезьлі ў Малдову замежных грамадзянаў дзеля арганізацыі масавых беспарадкаў і зьдзяйсьненьня тэрарыстычных актаў.

Чаго ж так напужаўся спадар Варонін? Справа ў тым, што перадвыбарчы расклад у гэтай краіне ня быў падобны да астатніх постсавецкіх. Малдова – апошняя краіна ў Эўропе, якой кіруе кампартыя, пры гэтым краіна застаецца адной зь бяднейшых на кантынэнце. І прэзыдэнт-камуніст, які адчуў перамены ў грамадзтве на постсавецкай прасторы, своечасова зарыентаваліся й вырашыў сам рухацца ў бок Эўразьвязу.




Сустрэчы Вароніна напярэдадні выбараў з прэзыдэнтамі Ўкраіны ды Грузіі — Віктарам Ющанкам і Міхаілам Саакашвілі шмат аб чым гавораць у гэтым кантэксьце.

Нечаканы ход камуніста Вароніна моцна пагоршыў пазыцыі Хрысьціянска-дэмакратычнай народнай партыі на чале зь Юрые Рошкай, якая пасьлядоўна шмат гадоў пазыцыянуе сабе як праэўрапейскую нацыянальную партыю, якая адстойвае незалежнасьць сваёй краіны й заходнія каштоўнасьці.

Што ж да Расеі, дык на гэтых выбарах менавіта яна й была зацікаўленая ў г.зв. "вінаграднай" рэвалюцыі, каб прывесьці да ўлады прарасейскі блёк "Дэмакратычная Малдова" й вырашыць з выгадай для сябе праблему самаўтворанай г.зв. "Прыднястроўскай малдаўскай рэспублікі". І, дзякуючы вельмі жорсткім паводзінам уладаў Малдовы, ў яе ў чарговы раз анічога не атрымалася. Вось як характарызуе выбары ў Малдове Прэзыдэнт беларускага ПЭН-цэнтру, сябра Партыі БНФ Лявон Баршчэўскі: *"На мой погляд, Малдова — даволі сымптаматычная краіна, у значнай ступені мэнталітэт яе народу наблізаны да нашага, і нейкія пракамуністычныя "сантымэнты" таксама існуюць у абедзьвюх краінах. Але тое, што Ўладзімер Варонін афіцыйна заявіў, што ён ня проста камуніст, а эўракамуніст, і што ў яго арыентацыя на заходнія каштоўнасьці, гэта выбіла і шмат якія казыры ў апазыцыі. Што да інцыдэнтаў зь беларускімі назіральнікамі, дык яны вельмі яскрава адлюстроўваюць стан разьвіцьця малдаўскага грамадзтва і ўлады, аднак, на маю думку, агульнапалітычная сытуацыя ў Малдове лепшая, чымсьці ў Беларусі, ды й апазыцыя мае там большыя магчымасьці. Ну а паколькі Масква вядзе па-ранейшаму свой абсалютна неразумны курс, які дыктуюць Рагозін, Жырыноўскі і кампанія, то яна чарговы раз пацярпела паразу, таму што ў дадзенай сытуацыі малдаване зрабілі выбар у заходні бок, а Масква засталася зноў ні з чым, як ужо было ў Грузіі і ва Ўкраіне".*

**Уладзімер ЛАБКОВІЧ,**
Бішкек – Качкой – Менск

# НА МЯЖЫ ЧАРГОВАЕ РЭВАЛЮЦЫІ

**Кыргыстан** – невялікая краіна, якая мае свайго вялікага брата. І гэта не Расея, а Казахстан. Краіна, якая зрабіла свой цывілізацыйны выбар у бок Кітаю, а не Эўразьвязу. Краіна, якая мае асаблівую ўнікальную прыроду, дзе ёсьць цудоўныя горы, шмат азёраў (адзін Ісык-куль чаго варты), але пры гэтым амаль цалкам адсутнічае турызм. Краіна, якая разьядаецца карупцыяй і жыве сама па сабе. Краіна, дзе ўплыў дзяржавы на штодзённае жыцьцё зусім не адчувальны. Сапраўды, талерантная краіна.

Прэзыдэнт Аскар Акаеў лічыцца самым лібэральным прэзыдэнтам у рэгіёне. Сапраўды, у краіне разьвітая грамадзянская супольнасьць. Міністэрствам юстыцыі зарэгістраваныя дзясяткі тысячаў грамадзкіх аб'яднаньняў. Час, які займае рэгістрацыя арганізацыі – гэта адзін дзень. У краіне абсалютна адкрыта дзейнічаюць замежныя няўрадавыя арганізацыі. Да нацыянальных і міжнародных арганізацыяў прыслухоўваюцца, яны рэальна спрабуюць уплываць на палітыку дзяржавы.

Зь іншага боку, краіна прыватызаваная клянам Акаева. Усё, што прыносіць хоць нейкі прыбытак, "прыватызавана" сям'ёй. Прыкладам, дэпутатам парлямэнту ў першым туры стаў сын Акаева, а дачка выйшла ў другі тур. Дарэчы, зь першага туру ў Жогорку Кенэш абраныя 28 з 75 дэпутатаў. Электронныя СМІ кантралююцца ўладай, апазыцыя абмежаваная ў сваёй агітацыйнай дзейнасьці.

Увогуле, улады ў сваіх дзеяньнях бываюць вельмі падобныя. Самая папулярная незалежная газэта "МСН-Навіны" за тры дні да выбараў атрымала пазоў у суд за абразу Акаева. У рэдакцыі, а таксама ў незалежнай друкарні, была адключана электрычнасьць, і газэта друкавалася на вайсковых генэратарах. Нічога не нагадвае?

**На перадавой**

Асноўнай увагай у міжнародных назіральнікаў карысталася Качкойская выбарчая акруга №34. Дадзеная акруга знаходзіцца за 250 км. ад Бішкеку, у гарах, за возерам Ісык-Куль. Тут балятаваўся сп. Усубаліеў 1919 г.н. У свой час ён быў першым сакратаром ЦК КССР. У якасьці незалежнага кандыдата балятаваўся сп. Жапараў, які на той момант зьяўляўся дэпутатам парлямэнту. Кандыдат Жапараў быў зьняты за 5 дзён да выбараў. Зьняцьцё адбылося па клясычнай беларускай схеме. Быццам бы дзьве жанчыны напісалі заявы, што сп. Жапараў асабіста прапаноўваў ім хабар, калі яны прагаласуюць за яго. Гэтая справа разглядалася ў судзе. Жапараў даказаў, што гэтыя асобы не зьяўляюцца ягонымі выбарнікамі, а таксама тое, што ў дзень, калі ён быццам бы даў хабар, ён быў на прыёме ў прэзыдэнта Акаева. Але ж раённы, а за ім і Вярхоўны суд пацьвярджаюць зьняцьцё кандыдата, які быў вылучаны Сацыял-дэмакратычнай партыяй Кыргыстану.

І Жапараў, які вельмі захоплены украінскай рэвалюцыяй, заклікаў народ да блякаваньня дарогаў, мэрыі ды іншых дзяржустановаў акругі. У акцыях удзельнічала 10.000 качкойцаў (агулам у горадзе жыве 30 тысяч жыхароў). На дарогах стаялі юрты, вакол уладных будынкаў езьдзілі кыргызы на конях. Мэрыю людзі ўзялі штурмам. Акім гораду (мэр) быў вымушаны зьбегчы. Таксама зьбеглі судзьзі раённага суду і ўсе іншыя прадстаўнікі мясцовай улады. А Жапараў, разумеючы, што такое стаяньне не прынясе яму мандат кандыдата, заклікаў выбарнікаў разблякаваць горад і на выбарах галасаваць супраць усіх, што дае яму магчымасьць вылучацца зноўку.

Дзень выбараў прайшоў спакойна. Па выніках галасаваньня супраць усіх прагаласавала 62% выбарнікаў. За равесьніка рэвалюцыі Усубаліева – толькі 19%. Натуральна, што акруговай выбарчай камісіі такі вынік не спадабаўся. Было прынята рашэньне ўначы перапісаць пратаколы ўчастковых выбарчых камісіяў.

Перапісваньне, не саромеючыся, праводзілася на вачох у міжнароднага назіральніка. Але ў той жа момант мэрыю, дзе месьцілася акруговая выбарчая камісія, зноўку захапілі прыхільнікі Жапарава. Мэр зноўку быў заблякаваны ў сваім кабінэце, а пад ціскам народу акруговая выбарчая камісія прызнала, што выбары па акрузе не адбыліся, паколькі 62% выбарнікаў прагаласавалі супраць усіх.

**Перад другім турам**

Напярэдадні другога туру (ён адбудзецца 13 сакавіка) сытуацыя ў краіне абвастрылася. На мітынгі выйшлі тысячы людзей. Найбольш "сьпякотна" на поўдні краіны.

Ужо пяты дзень запар людзі ўтрымліваюць будынак Джалал-Абадзкай абласной адміністрацыі, а цэнтральны пляц гораду застаўлены юртамі, дзе "жывуць" удзельнікі "тульпанавай" рэвалюцыі. Губэрнатар вобласьці Шарыпаў вымушаны быў шукаць прытулак у сьценах мясцовай міліцыі. Адначасова калёны людзей рушаць да паўднёвай сталіцы краіны – Ошу. Жыхары Нарынскай вобласьці перакрылі аўтатрасу, што вядзе да кітайскай мяжы. Разьюшаныя людзі ўжо высунулі лёзунг "Акаева – у адстаўку". І чым гэта ўсё скончыцца, пакуль прагназаваць немагчыма.



# РЫГОР КАСТУСЁЎ

1 сакавіка ў Беларусі распачаўся бестэрміновы страйк прадпрымальнікаў, што гандлююць на рынках. У гэты ж дзень у шмат якіх гарадох краіны прайшлі масавыя акцыі пратэсту. Лідэры й актывісты Партыі БНФ узялі ў іх чынны ўдзел.

Найбуйнейшая акцыя пратэсту адбылася ў сталіцы. Па розных ацэнках на пляц Новае месца (ля Палацу Рэспублікі) выйшлі ад 3 да 6 тысячаў прадпрымальнікаў. Сярод удзельнікаў мітынгу й наступнага шэсьця былі намесьнік старшыні Партыі БНФ Аляксей Янукевіч, актывісты Партыі БНФ зь Менску й бліжэйшых гарадоў, сярод якіх некаторыя зарабляюць сабе на жыцьцё менавіта гандлем на рынках.

У Магілеве ж пратэст прадпрымальнікаў фактычна ачоліў кіраўнік Магілеўскай абласной арганізацыі Партыі БНФ Рыгор Кастусёў. Супрацоўнікі міліцыі наладзілі на яго сапраўднае паляваньне, аднак безвынікове. Сп. Кастусёва адстаялі людзі – яго калегі-прадпрымальнікі.

## Храналёгія.

**Першага сакавіка, аўторак. Першы дзень страйку.** На цэнтральным пляцы гораду – пл. Леніна – зранку сабраліся каля тысячы чалавек. Галоўнай мэтай страйку прадпрымальнікаў ёсьць скасаваньне падатку на дададзеную вартасьць ў 18% пры ўвозе тавараў з Расеі, таму што прадпрымальнікі й так сплочваюць штомесяц 150 даляраў адзінага падатку, плюс мясцовыя паборы – каля 40 даляраў на месяц. Паводле рашэньня сходу Рыгор Кастусёў разам з адным зь лідэраў Свабоднага прафсаюзу Сяргеем Фаміным падалі зварот да кіраўніцтва краіны аб адмене ПДВ у аблвыканкам. Распавядае сп. Кастусёў: *"Перамовы мы вялі з намесьнікам старшыні аблвыканкаму сп. Краўцовым. Тамсама быў і загадчык аддзелу па прадпрымальніцтву аблвыканкама сп. Красоўскі. "Вынікам" гэтага дню стала тое, што супрацоўнікі аблвыканкаму сказалі: "Мы не вырашаем гэтую праблему".*

**Другога сакавіка, серада. Другі дзень страйку.** На пл. Леніна ізноў сабралося блізу тысячы чалавек. Дэлегацыю прадпрымальнікаў у складзе 10 чалавек на чале са сп. Кастусёвым запрасіў да сябе ў кабінэт старшыня Магілёўскага аблвыканкаму Барыс Батура. У кабінэце сп.Батуры адбылася размова па ўсіх пытаньнях, зьвязаных з прадпрымальніцкай дзейнасьцю.

У перамовах узялі ўдзел таксама спсп. Краўцоў і Красоўскі, а таксама Генадзь Лаўрэнкоў – памочнік прэзыдэнта па Магілёўскай вобласьці, у нядаўнім мінулым – кіраўнік справамі прэзыдэнта. Старшыня аблвыканкаму паабяцаў падрыхтаваць ліст ва ўрад Беларусі й запрапанаваў дэлегацыі празь нейкі час зайсьці, каб атрымаць яго копію. Распавядае сп. Кастусёў: *"Калі ж праз гадзіну мы вярнуліся да будынку аблвыканкаму за абяцанай копіяй ліста сп. Батуры, ля ліфту нас прыпыніў нарад міліцыі, які прапанаваў прайсьці ў Ленінскі РАУС. Мы, натуральна, не пагадзіліся. На выхадзе ж з будынку нас ізноў спрабавалі затрымаць міліцыянты на чале з падпалкоўнікам Ермаковым – намесьнікам начальніка райаддзелу нутраных справаў Магілёва. Аднак мы выйшлі праз іншы выхад з будынку і накіраваліся да стаянкі аўтамабіляў. Да машыны адразу ж пад'ехалі некалькі міліцэйскіх аўто. Нам было прапанавана выйсьці й праехаць у РАУС нібыта дзеля праверкі дакумантаў з-за пераходу выліцы не ў належным месцы. У выніку паўгадзінных перамоваў міліцыянты ад нас усё ж адчапіліся".*



Аднак увечары Рыгору Кастусёву да хаты была дастаўленая павестка з патрабаваньнем зьявіцца сёньня ў раённае ўпраўленьне ўнутраных справаў "у якасьці сьведкі".

**Трэцяга сакавіка, чацьвер. Трэці дзень страйку.**
Міліцыянты хацелі скласьці на Рыгора Кастусёва пратакол за арганізацыю несанкцыянаванага мітынгу, аднак за 40 хвілінаў "размовы" пад вокнамі сабралося каля трох соцень прадпрымальнікаў, якія патрабавалі вызваленьня свайго лідэра, і міліцыя была вымушаная саступіць. Зараз сп.Кастусёў хаваецца ад міліцыі, паколькі лічыць неабходным быць максімальна магчымы час на свабодзе, каб дапамагчы прадпрымальнікам адстаяць свае правы. Распядае сп. Кастусёў: "Ермакоў доўга раіўся з кімсьці, а потым вырашыў пратакол не складаць, абмежавацца прафіляктычнай размовай ды вусным папярэджаньнем. Я выйшаў, распавёў пра ўсё гэта тым, хто чакаў унізе, і ўсе ўспрынялі такі вынік як лякальную парамогу". Сюжэт пра маё "вызваленьне" зь Ленінскага райаддзелу здымаў тэлеканал "Магілёў-2".

**Чацьвертага сакавіка, пятніца. Чацьверты дзень страйку.** На цэнтральным пляцы горада ізноў адбыўся мітынг прадпрымальнікаў, на які выйшлі амаль дзьве тысячы чалавек, каб выказаць свой пратэст супраць пабораў з боку дзяржавы. У гэты дзень усе чакалі вынікаў перамоваў зь Менску. Затрыманьняў не было.

*"Гэты месяц пратрымаемся. У выніку ж асабіста я думаю, у сп. Лукашэнкі ня хопіць волі адмяніць гэты падатак. Але гэтыя страйкі не застануцца марнымі",* — лічыць Рыгор Кастусёў. І насамрэч, людзі могуць доўга трываць зьдзек з грамадзкіх інстытутаў ды звужэньне інфармацыйнай прасторы. Аднак калі з-за напрадуманага рашэньня чыноўнікаў яны ня могуць пракарміць свае сем'і, дык яны становяцца вельмі небясьпечнымі для ўладаў. Сёньня – прадпрымальнікі. А заўтра?

 НАВІНЫ БНФ

**E-mail:** pbnf@pbnf.org
**Сайт:** http://www.pbnf.org
**Адрас для ліставаньня:** 220005, Менск, вул. Варвашэні 8, Сядзіба БНФ

**Галоўны рэдактар:** Юры Гембіцкі
**Выпускны рэдактар:** Франак Вячорка

№2(80), 12 сакавіка 2005 г., наклад 299 ас.
Распаўсюджваецца бясплатна на правох унутранай дакумэнтацыі